Пятніца, 7 лістапада 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопісь, выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

ГОД I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 20.

*Вільня, 7 лістапада 1919 г.*

Пачынаючы нашу працу, мы апіраліся на вядомай адозве Я. Пілсудскага „да жыхароў б. В. Князьства Літоўскага“ і клікамі нашае беларускае грамадзянства, каб яно прыняло словы Начальніка Польскай Дзержавы з поўнай верай у Яго добрыя хаценьні і каб яно ў сваёй працы дзеля адраджэньня Бацькаўшчыны апіралося на захад, на той захад, з якім злучыла нас сама гісторыя, з каторым мы супольна прожылі шмат шчасных і несчасных часін, змагаючыся з супольным ворагам — Маскоўшчынай. Мы клікалі, каб у будаўніцтве нашай дзержаўнасьці абапёрціся на таго, хто хоча йсьці побач нас, на таго, хто хоча і можа памагчы нам — на польскую дэмократыю. С пачатку нашыя словы часткай беларускага грамадзянства прыймаліс трохі крытычна, беларуская палітычная думка ня зьвінела тады яшчэ згодным акордам.

Не шмат прайшло часу—і вось мы бачым, што той палітычны грунт, на які мы з самага першага нумэра „Белар. Жыцьця“ ўказывалі, як на ядыны разумны і трывалы, зьяўляецца тым грунтам, на якім цяпер сталі ўсе адказныя беларускія палітычныя працаўнікі. Будаваньне беларускай дзержаўнасьці абапёрлося на помач Польшчы, і першай ды самай вялізарнай праявой гэтай помачы ёсьць дэкрэт вялікага сына нашай зямлі, каторага лёс паставіў на чале Польскай Дзержавы, аб фармаваньні беларускага войска.

Войска—гэта тая відочная рэальная сіла, якая дасьць нам магчымасьць адбудаваць нашу Незалежную і Непадзельную Беларусь, адваеваць ад маскоўскіх захватнікаў нашыя землі, дзе „плачуць яшчэ маткі, стогнуць людзі, маўчыць хаўтурны голас аб'імшэлых званніцаў“... Беларускае войска — гэта тыя масы нашага селянства, для якога яно будзе школай нацыянальнага ўсьведамленьня, урэшце войска—гэта тая агітацыйная сіла, якая пераканае няверных ды няверучых сыноў Бацькаўшчыны ў яе жыцьцёвую моц...

Перад намі вялікае заданьне: паказаць народам Эўропы, сваім бліжэйшым суседзям і пераканаць наш уласны народ, што ў нас ёсьць гэтая жыцьцёвая моц, што мы гэтак сама, а мо ляпей за іншых патрапім бараніць сваю незалежнасьць, што мы патрапім усё злажыць на аўтары нашай Волі, што мы—ня жменька людзей, якая „памесьціцца на аднэй канапе“, а мы—дванацацімільонны народ, які зварушыўся ад доўгага сна, каб пачаць жыць ізноў як роўны з роўнымі, вольны з вольнымі.

Вялікі перад намі экзамін—экзамін палітычнай сьпеласьці і патрыатычнага духа. Памятаймо, што ня трэба шкадаваць бяссонных начэй, надзвычайных патуг, каб вытрымаць яго ўдачна. У нашых руках лёс Бацькаўшчыны, у нашых руках доля будучых пакаленьняў.

Няхай-жа тыя, што прыйдуць пасьля нас, з удзячнасьцю ўспамянуць нашае імя. Няхай беларускае войска будзе тым нашым рыцарством, якое горда нясе сябе на ахвяру за волю Бацькаўшчыны.

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА.

### Выняткі з дэкрэту Польскага Галоўнага Камандуючага ў справе арганізацыі Беларускага Войска.

Узяўшы пад увагу дэкларацыю Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны ў справе фармаваньня беларускага войска пад глаўным польскім камандаваньнем дзеля барацьбы з усходнім захватнікам, якая пада-

дзена мне 28 ліпня с. г., а таксама падобныя да гэтага заявы Менскіх Беларускіх грамадзянскіх арганізацыяў, спаўняю гэту прозьбу і загадываю фармаваньне беларускіх аддзелаў на гэтакіх асновах:

Беларускія аддзелы фармуюцца з ахвотнікаў. Дзеля гэтага ў кожным вэрбункновым бюро на абшары Беларускіх зямель будзе адзін камісар або афіцэр і адзін пісар—беларусы.

Палкоўніка Г. Канапацкага, запрапанаванага мне Беларускай Вайсковай Камісыяй, назначаю камандзірам беларускага войска.

Месцом фармаваньня беларускага войска назначаю Слонім.

Дзеля арганізацыйнай і прыгатаваўчай работы назначаю Беларускую Вайсковую Камісыю, якая ў паразуменьні с Камісарыятам Усходніх Зямель і D. O. G. будзе арганізаваць беларускае войска:

1) даючы адпаведныя наказы палк. Канапацкаму і

2) утвараючы адпаведныя падкамісыі.

У склад Камісыі ўваходзяць: палк. Канапацкі, п. Рак-Міхайлоўскі, штабс-капітан Кушэль, п. Алексюк, палк. Якубоўскі, п.п. Мурашко, Аўсяньнік, Прушынскі і штабс-капітан Якубоўскі.

Месцом працы Камісыі назначаю Менск.

Бел. Вайск. Камісыі даручаю сарганізаваць: пэрсональную (кваліфікацыйную) і рэгуляміновую (статутную) падкамісыі.

## Гутарка з старшынёй Беларускай Вайсковай Камісыі П. Алексюком.

На сьцяг нашых пытаньняў п. Алексюк сказаў вось што:

— Вялікае дзела будаваньня нашай нацыянальнай Арміі стаіць на цьвёрдым і пэўным грунце.

Наагул трэба прыдаць вялізнае значэньне гэтаму дэкрэту Начальніка Польскай Дзержавы з боку агульна-палітычнага. Гэты акт пекна гаворыць аб тэй шчыра-прыязнай нам палітыцэ, якую вядзе Галава польскай Дзержавы; ён праконывае ў яго здэцыдаваным рашэньні памагчы беларускаму народу здабыць незалежнае існаваньне.

Шмат у гэтай справе залежыць і ад нас: трэба зусім рашыцельна ўразумець нашэ палажэньне і выразна сказаць, што толькі ў цеснай лучнасьці з маладой Польскай Дзержавай, толькі у супольнай працы, будаўніцтве і барацьбе з супольнымі ворагамі, пагражаючымі нашаму існаваньню, мы дойдзем да сваей канешнай мэты: адбудаваньня Беларусі. Гарантыей гэтага будзе Пілсудскі і наша армія.

Вайсковая Камісыя мае дзьве найважнейшыя мэты: вэрбоўку жаўнера ахвотніка і нацыянальнае гадаваньне войска. І тое, і другое заданьне яна будзе выпаўняць стоячы цьвёрда на грунце нацыянальным і памятуючы, што справа не ў колькасьці, а ў цэннасьці таго элемэнта, які войдзе ў армію.

Афіцэрскі, асабліва падафіцэрскі склад—гэта цэмэнт арміі. Камісыя будзе зорка пільнаваць таго, каб не праніклі да нас нашы ворагі, або кар'ерысты, каторых нічога не вяжэ з беларуствам. Самая шырокая агітацыя вайсковай справы на нашай вёсцы, навадненьне яе брашурамі, адозвамі і іншым друкаваным матэр'ялам—будзе таксама нашым важным заданьнем.

Армія беларуская—і ні воднаго слова у камандзе з першага мамэнту яе жыцьця ня будзе ў чужацкай мове. Усё беларускае: каманда, статуты, дзелаводства.

З гэтай мэтай спэцыяльная падкамісыя дужа інтэнсыўна працуе над перэкладам на беларускую мову усіх патрэбных статутаў. Часьць з іх ужо гэтымі днямі пачне друкавацца.

Мы будзем працаваць побач з польскай уладай вайсковай і цывільнай, і трэба зусім шчыра сказаць, што наша шырокая работа будзе магчыма толькі пры шчырасьці і прыхільнасьці да яе гэтай улады. Я цьвёрда веру, што гэта будзе так, што шчырае жаданьне Я. Пілсудскаго будзе праводзіцца на месцох. Мы не заплюшчываем вачэй на тую сільную апазыцыю, якую спаткаем у колах „тоже бѣлоруссов", якія будуць варочаць тэрмінамі „польская интрига", „польская армія".

Нам гэта не страшна: селянство хутка зразумее, дзе праўда, мы прымем усе меры, каб адкрыць праўдзівую скуру гэтых паноў і, сьмею Вас заверыць, паведзём з імім самую рашучую барацьбу.

## Гутарка з камандзірам беларускага войска палк. Канапацкім.

Палк. Канапацкі сказаў нашаму супрацоўніку ў справе фармаваньня беларускага войска больш-меньш вось што:

— Пачатак будаваньня арміі—глаўным

чынам будзе падгатоўка кадраў, як афіцэрскіх, так і падафіцэрскіх. Дзеля гэтага цяпер-жа ўсе афіцэры арганізацый Горадненскай і Віленскай, а так сама і зарэгістрыраваныя ў Менску, па разгляду іх дакумэнтаў кваліфікацыйнай падкамісыей, будуць залічаны ў рэзэрву і павінны праслухаць паўтарыцельныя афіцэрскія курсы і курсы беларусазнаўства, а асабліва беларускаю мову і перэтлумачэную камандную і вайсковую тэрміналёгію. Праслухаўшы курсы, кожны з іх атрымае адпаведнае становішчэ ў фармаваным войску.

Адначасна з гэтым і, калі будуць ужо падгатоўляны тэхнічныя вэрбунковыя апараты ў паветах, будуць набраны ахвотнікі, якія адпаведаюць патрэбным варункам, у школу падафіцэраў.

У школу падафіцэраў, магчыма што пры патрэбе і на афіцэрскія курсы, будуць прыкамандзіраваны некалькі спецыялістаў з польскай школы дзеля тэхнічных паказаў вайсковай муштры і абзнаёмленьня з апошнімі дасканальнасьцямі вайскавога дзела. Тыя-жа маладыя людзі, якія яшчэ ня маюць афіцэрскай рангі і хочуць яе атрымаць, калі яны адпаведаюць патрэбным варункам, могуць быць камандзіраваны ў школу падхарунжых у Варшаву, гдзе ўжо нам абецано утварыць беларускі плютон. Па аканчаньні гэтай школы яны займуць становішчы курсавых афіцэраў у нашых падафіцэрскіх школах і магчыма, што нават ў нашых падхарунжовых школах, якія пры першай магчымасьці будуць так сама адчыняны.

Праз увесь гэты час у паветах будзе існаваць падгатаваўчая праца — набор дабравольцаў, якія будуць пакліканы пры фармаваньні кадраў. З пачатку будуць фармавацца пяхотныя часьці, але магчыма, што адначасна будзе фармавацца і нейкая конная часьць.

Хуткасьць правядзеньня ў жыцьцё фармаваньня войска будзе залежыць глаўным чынам ад работаспасобнасьці Вайсковай Камісыі і яе падкамісыяў, а таксама і ад тых адносін польскай ўлады, у паразуменьню з якой па загаду Начальніка ПольскайДзяржавы прыдзецца працаваць Вайсковай Камісыі і камандаваньню беларускімі аддзеламі.

## У Бел Вайск. Арганізацыі.

1. XI—19 г. ў памешканьні Беларускай Вайсковай Арганізацыі адбыўся надзвычайны сход ваякаў беларусаў, на якім дэлегацыя Вайсковай Камісыі азнаёміла сабраўшыхся з дэкрэтам Начальніка Польскай Дзержавы Язэпа Пілсудскага аб фармаваньні беларускай арміі. Старшыня Вайсковай Камісіі, П. Алексюк ў сваей прамове зазначыў тую агромную вагу, якую будзе мець для беларускага народу яго маладая армія, якая ў імя ідэалаў Беларусі павінна рашуча бараніць сваю Бацькаўшчыну ад ворагаў Беларусі, ці то будуць маскоўскія бальшавікі, ці маскоўскія імпэрыялісты. Беларускі народ павінен памятаць, што пачатак нашай збройнай сіле кладзецца, дзякуючы вялікаму дзержаўнаму выразуменьню Начальніка братняга нам гаспадарства, Язэпа Пілсудскага, а беларусы-ваякі няхай знаюць, што пад камандаваньнем гэтага вялікага чалавека яны сьмела могуць ісьці на сьмяротны бой, бо гэта ён, лепшы сын Польшы, так шчыра нясе помач беларускаму народу ў закладзінах падвалін яго незалежнага жыцьця. Сход з вялікім энтузіазмам прыняў прапазыцыю пасласць Начальніку Польскай Дзержавы гэткую тэлеграму:

„Начальніку Польскай Дзяржавы і Галоўна-Камандуючаму польскімі збройнымі сіламі Язэпу Пілсудскаму.

Ваякі-беларусы, сабраўшыся на сход дзеля выслуханьня дэкрэту Вашай Міласьці аб фармаваньні беларускай арміі, шлюць Вам, Начальнік Польскай Дзержавы і Камандуючы Польскімі Збройнымі Сіламі, шчырую падзяку за гэты акт, які ложыць праўдзівую падваліну беларуска-польскай прыязьні і супольнага будаўніцтва.

Мы ўсе, як адзін чалавек, аддадзём сваё жыцьцё у барацьбе пад Вашым Камандаваньнем побач з братняй польскай арміяй за ідэалы будаваньня Беларускай Незалежнай Дзержавы, якой заграждаюць усходнія наездцы“.

Ад іменьня сабраўшыхся падпісалі тэлеграму сябры Вайсковай Камісіі:

П. Алексюк, А. Аўсяньнік,Г. Канапацкі, Ф. Кушэль.

Пасьля гэтага камандуючы і арганізатар беларускай арміі, палкоўнік Канапацкі выясьніў плян бліжэйшай працы і сход пры агульным пад'еме настрою зачыніўся,

## Беларускі мундзір

Для Беларускай Арміі ўстаноўлена гэтакая вайсковая вопратка:

Фасон шапкі — англіцкі. Колер шэры. Канты чырвоныя ў штабных і тэхнічных ад-

дзелаў; у пяхоце—чорныя, у кавалерыі—белыя. Аколышак у штабе чорны аксамітны, у пяхоце шэры, у кавалерыі — блакітны; на ім нашыты нацыянальных колераў паясок бела-чырвона-белы. Па сярэдзіне „пагоня“ ў вянку. У ўсіх афіцэраў над казырком сярэбраны пераплецяны шнурок.

Мундзір фасону „фрэнч“, з чырвонымі кантамі ў штабе, з чорнымі ў пяхоце і белымі ў кавалерыі, апрача таго ў кавалерыі блакітны каўнер і манкеты. Эполет з гэтага самага сукна, на ім на чырвоным полі вышыта сярэбраная „пагоня“ (як у галлерчыкаў арол). У афіцэраў на каўнеры сярэбраная пятля, а ў салдатаў нашыўкі нацыянальных колераў, а на іх сярэбраныя нашытыя паяскі дзеля азначэньня рангаў.

Афіцэрская ранга будзе абазначацца толькі сярэбранымі нашыўкамі на рукавох.

Плашч: канты гэтак самыя, як на мундзірах. Фасон гэтакі самы, як у польскай арміі. Плашч афіцэрскі нічым ня будзе рожніцца ад салдацкага апрача таго, што ў апошніх будзе адзін рад гузікаў, а ў афіцэраў—два. На каўнеры ў усіх будзе нашыта пятліца бела-чырвона-белая.

На гузіках будзе „пагоня“.

У нашай рэдакцыі быў адзін з афіцэраў беларускай арміі ў вышэйапісаным мундзіры. Вопратка вельмі скромная і прыгожая, бяз ніякіх лішніх бліскучак і інш. нэпатрэбных аздобаў.



**АЛЁІЗЬЯ С ПАШКЕВІЧАЎ КЕЙРЫСОВАЯ**
**(„Цётка“). † 4/5 лютага 1916 г.**

З іменьнем „Цёткі“ злучаюцца першыя зачаткі беларускай работы ў Вільні—ў 1904 — 1905 гадох, калі, поруч з рэволюцыйным рухам па ўсей Расеі, пачаўся ў шырокіх народных масах беларускі рух...

**Юры Монвід.**

## Дзіцячыя сьлёзы.

Марцовы дзень. Праз шыбы ўрываюцца ў кватэру даўно нібачэныя праменьні сонца. Дахі ужо пачарнелі. Радамі бліскучых, як брылянты, пацяркоў сплываюць з іх на зямлю астаткі таючага сьнегу. Чуваць зыкі шарманкі: іграе якійсь стары — стары вальчык...

У душы залегае сум і знаёмая вясеньняя туга. Сэрцо бьецца хутчэй...

У невялічкім пакоі ў цэнтры места 6-ці гадовы Пятрук, перэвярнуўшы маленькі на аднэй ножцы столік, стараецца паставіць на гэтай ножцы купленую на Казіміраўскім кірмашы якуюсь гліняную фігурку. Дзеля чаго, — хто яго ведае! Нешта сабе пад нос балмочыць, ні то пяе,—вось, каб толькі зрасходаваць лішэк дзіцячай энэргіі. Бацькі няма, — пайшоў на службу. Маці пры вакне ладзіць сабе вясеньнюю жакетку.

— Разабьеш, і што з гэтага?..—асьцерэгае яго маці. — Варта табе купляць забаўкі!..

— Не разабью!—адказывае знэрваваным с прычыны матчынай кратыкі тонам Пятрук.

Раптам... бэнц!—нісьвядомая эквілібрыстыкі фігурка ўпала на падлогу і разьбілася на некалькі кусочкаў.

— А што! — сказала маці і хацела выкляпсаць Пятрука за неслухмянасьць ды раздумалася: шкада часу, — трэба канчаць жакетку,—ды і шкода ня лішне вялікая.

Пятрук з застыджэнай мінай пайшоў у кут, дзе стаяў яго стары дрэўляны конь. Хвост у яго быў ужо вырваны, адна нага зламаная... Добры стары конь! Колькі разоў ужо, кінуўшы ўсе новыя забаўкі, вертаўся да яго Пятрук! Цяпер, пашургаўшы крыху канём па падлозе, задумаўся: цікавасьць, што ў сярэдзіне? Хіба разрэзаць бруха, ці што?

Пятрук зьбіраўся ўжо ісьці ў кухню

Незвычайная рознароднасьць грамадзкай працы, жаданьне ўсюды прылажыць руку да сьвятой справы адраджэньня беларускага народу і авоцнасьць работы сьведчаць аб духовым багацьці гэтай першай беларускай паэткі і пісьменьніцы...

Як усе натуры, каторыя працуюць парывамі, выбухова, „Цётка“ пачынала пісаць многа, але давадзіла да канца толькі незначную частку распачатых прац. Ды ў гэтым адыграла сур'езную ролю яе хвароба — сухоты, с каторай нашай песьнярцы даводзілося змагацца пры вельмі цяжкіх варунках...

Праз усё сваё жыцьцё „Цётка“-папраўдзі гарэла, і шыбка таялі яе сілы, каторыя так шчодра аддавала беларускай справе. І, шыбаючы ўверх—да сонца і да зор, яна разам чула сваю слабасьць, бязсільнасьць...

„Цётка“ пакінула даволі багатую літэратурную спадчыну ў рукапісах, але ў ваенным часе нельга было ні пазнаёміцца з імі, ні выкарыстаць іх. Гэта праца для будучыны, каторая мо адкрые новыя староны ў душы і творчасьці без пары зыйшоўшай са сьвету выдатнай грамадзкай работніцы і песьняркі.

**A. Nowina**

(«Našy pieśniary»).



**ЎЛАДЫСЛАЎ ГАЛУБОК.**

**(Радз. 3 мая 1882 г.).**

Вядомы сучасны беларускі пісьменьнік-драматург Уладыслаў Галубок (праўдзівае прозвішча — Голуб) радзіўся ў Менску, дзе і жывець усё сваё жыцьцё. Бацька драматурга Язэп Голуб, быў родам з Барысава, з Меншчыны; ён да 20-х гадоў жыў у дому, а пасьля працаваў на чыгунцы сьлесарам у Менскім дэпо. Памёр рана, на 35 годзе жыцьця; дзеля таго Уладыслаў Галубок,

---

шукаць нож. Ажно ля дзьвярэй зазьвінеў званок. Прыйшла панна Стася, прыяцелька маці Пятрука. Вясёлая, рожавая, пахучая вясной.

Пятрук забыўся, што меўся распароць каню бруха.

Між прыяцелькамі пачалася гутарка на тэму ладжэнай жакеткі, цяперашніх мод, вясны...

Пятрук, адзін, бяз роўных яму гадамі таварышаў, цешыўся у сваём адзіноцтве, калі прыходзіў нехта с чужых людзей. Разявіўшы рот, стаяў ціханька, нікому не перэшкаджаючы, і хапаў вухам чутую гутарку. Чуў многа для сябе рэчаў нізразумелых, ды аднак кожная фраза радзіла ў яго мозагу якійсь адпаведны абраз, хаця можа ён ня зусім адпаведаў праўдзе. І цяпер, стоючы каля крэсла, на каторым сядзела панна Стася, ціханька стаяў і слухаў стрэкатаньня маладой дзяўчыны.

Нарэшці зьвярнулі і на яго ўвагу. Панна Стася ўзяла хлопчыка к сабе на калены, прытуліла да сябе і спыталася:

— Ну, Пятручок! калі-ж жаніцца будзем?

Гэны жарт заўсёды паўтарала панна Стася, як толькі прыходзіла ў госьці да сваей прыяцялькі.

— Сягоньня — з ахвотай адказаў хлапчук, прытуліваючыся да яе ямчэй.

Абедзьве кабеты шчыра разьсмеяліся.

— Як-жаж так хутка будзеш жаніцца? Трэба-ж, каб запаведзі выйшлі, трэба скліkаць гасьцей...

— Ну дык заўтра—адказаў Пятручок.

— Не, і гэта за скора. Ты ня думай, што гэта так хутка робіцца.

Маці падсказала Пятруку:

— Скажы: „як вырасту, тады жаніцца буду; я цяпер яшчэ малы“.

— Не, я цяпер хачу жаніцца!—са сьлязой у голасе ўпіраўся Пятрук.—А пані бу-

скончыўшы у 1893 годзе прыходзкую школу і паступіўшы у вышэйшую гарадзкую, паўчыўся там толькі два годы і ў 1895 годзе мусіў кінуць навуку і зарабляць на хлеб прыказчыкам у адным з менскіх магазынаў. У 1897 годзе ён паступіў на чыгунку, дзе і праслужыў 22 гады да апошніх дзён, хоць цяпер і быў прымушан шукаць іншай працы абыдзе яшчэ...

Па шляху беларускай творчасьці У. Галубок пайшоў з 1908 г. Як бэльлетрыст, ён супрацоўнічаў у „Нашай Ніве", „Маладой Беларусі" „Вольнай Беларусі", беларускіх календарах і іншых выданьнях; пісаў прозу і вершы. За першы пэрыяд творчасьці з-пад яго пяра выйшлі апавяданьні: „Абмылка вучонага" (1913), „Сын вёскі" (1914), „Сірата Ганюся" 1917) і інш., а таксама вядомы верш „Будучына":

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды, сюды снуе народ,—
Будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Зьвініць сталёвы лом;
На месцы даўнай старыны
Будуюць новы дом.
Што дзень угору сьцены йдуць,
Ушыр, і ўдоўж, кругом...
Баліць мазоль, ірвецца грудзь,—
А ўсё-ж будуюць дом!

і г. д.

Калі з разьвіцьцем беларускага тэатру пачулася войстрая патрэба у пашырэньні рэпэртуара, Галубок насьпех робіць пьесы з сваіх апавяданьняў („Апошняе спатканьне", „Парабкі", „Шчырае каханьне"), а затым піша новыя драмы; апошнія тры гады творыць ён выключна ў драматургіі.

Да гэтага часу Галубок напісаў гэткія драмы і комэдыі (у тым ліку перарobленыя з апаведаньняў):

1) „Апошняе спатканьне", 5 акт.;
2) „Цярністы шлях", 5 акт.;
3) „Бязвінная кроў," 3 акт.;
4) „Ганка", 5 акт.;
5) „Бязродны", 5 акт.;
6) „Душагубы", 2 акты;
7) „Праменьчык шчасьця", 4 акты,
8) „Хціўцы", 3 акты;
9) „Пісаравы імяніны", 3 акты.

Апрача „Хціўцаў", усе яны былі на сцэне (на менскай—з вучасьцем самога аўтора, каторы сумяшчае ў сабе і здольнага артысту) і здабылі належную славу аўтору. Аб папулярнасьці пьес Галубка сьведчыць тое, што іх ставілі ў глухой правінцыі і на далёкім усходзе Беларусі (Горы-Горкі ў Магілеўшчыне, тэатр Беларускай Сэкцыі Школьных Інстытуцый).

Цяпер Галубок у самай парэ свае творчасьці. Яшчэ многа чаго можна спадзявацца ад яго. Толькі-ж вельмі цяжкія ўмовы жыцьця надта перашкаджаюць гэтаму.

---

дзе чакаць, пакуль я выраслу?—дакінуў, падумаўшы крыху.

— О, буду, ведама, што буду!—адказала панна Стася і, пацалаваўшы хлапчука у бледнае лічыко, паставіла яго з сваіх кален на падлогу.

— Жаніцца хочаш,—са сьмехам сказала маці—а сядзіш на каленах у сваей нявесты, гэта-ж ня выпадае!

Хлапчук ня зусім гэта сьцяміў. Чаму ня выпадае? што благога?

Аднак пачырванеў і пастанавіў ніколі больш ня сядзець на каленах панны Стасі...

---

У душы Пятручка пачаўся адбывацца дзіўны працэс. Як толькі прыходзіла панна Стася, рабіўся сумны, паважны. Ня затым, што ня цешыўся з яе прыходу. Наадварот—жадаў гэтага, тужыў за ёй. Пры ёй цяпер заўсёды маўчаў. Баяўся сказаць нешта такое, с чаго-б старшыя пачалі сьмеяцца.

Няцярпліва чакаў шлюбу. Што гэта такое, як выглядае гэтая працэдура, якое яна у жыцьці значэньне мае?—аб гэтым ня меў ніякага паняцьця. Інтуіцыйна толькі прадчуяў, што гэта нешта такое, што крэпка зьвязывае двое людзей з сабою, робіць іх надта блізкімі адзін да аднаго, што тут адбываецца нейкая дзіўная містэрыя.

Яму асабліваю прыемнасьцю было цалаваць белую мягкую руку панны Станіславы.

Ажно раз сказалі яму:

— Пятрук! Паненак ня трэба цалаваць у руку, а толькі замужных, вось як цёця Галена або пані Якубова... А панна Стася—паненка, яе не цалуй!

Пятрук слухаў гэтага загаду,—і адгэтуль галаву яго запоўнілі думкі аб тым, як ён ажэніцца с паннай Стасяй і тады будзе цалаваць яе рукі, бо тады яна будзе замужная,—праз увесь дзень будзе цалаваць яе

У Галубка вялікая сям'я, дзьве яго дачушкі, бязумоўна, маюць артыстычныя здольнасьці, аб чым сьведчаць іх выступленьні на менскай беларускай сцэне.

Галубок ня толькі піша, ён і малюець. Літэратурныя творы яго і карціны поўныя рэалізму і прастаты, даступны і прыемны масаваму чалавеку.

Ня дужа даўно беларускае выдавецтва у Вільні выдрукавала „Апошняе спатканьне“, крытычны агляд каторага будзе у чародным нумару „Бел. Ж.“.

М. Г.



# МОЙ ЦЕНЬ.

**Як прыйдзе дзень майго збаўленьня,**
**З крывавых цернеў вызваленьне, —**
**А веру, прыйдзе гэткі дзень, —**
**З імглы адвечнасьці паўстане**
**І крыжам стане на кургане**
**Майго жыцьця бязсьмертны цень.**

**Бяз воч, бяз косьці, жыл і сэрца,**
**Сам—крыж, на крыж ён абапрэцца,**
**І, ўвесь удумаўшыся ў даль,**
**Сачыць пачне ўвесь ад пачатку**
**Мой шлях, якім шоў да астатку,**
**Які мне кінуў толькі жаль.**

**Сачыці будзе, як арліца**
**Дабычу сочыць над крыніцай,**
**Чаму з жыцьцём ня ўмеў я жыць**
**І нарэкаць, клясьці ня будзе,**
**Што я, што мне зрабілі людзі,**
**Ня будзе плакаць ён і выць.**

**Ня будзе нават уздыхаці, —**
**Адно, мо вырвецца пракляцьце,**
**Якім я жыў ад малку лет,**
**Адно, сам аб сабе цень скажэ**
**Крыжам, адвечнай сваей стражы:**
**Каб не радзіўся лепш па сьвет!..**

**ЯНКА КУПАЛА.**

рукі, — і гэта здавалося яму найвялікшым шчасьцем!..

---

Прайшло крыху часу. Усіе забыліся ўжо аб „пасватаньні“ Пятручка. Панна Стася часта забегала да маці яго дзеля прыяцельскай гутаркі. Панна Стася ня мела тайнаў перад маткай Пятрука: шчырай сваёй прыяцельцэ расказывала аба ўсім — аб новай блюзачцэ, аб новым капялюшу, аб новым хлопцу... Бо панна Стася была вясёлая дзяўчына і любіла пафліртаваць...

Пятрук сядзеў тады ў куце, абняўшы свайго бязхвостага дрэўлянага каня або прытуліўшы твар да кудлаў Трэзора, ціхай старой сабакі с пароды цэтэроў, і слухаў.

Ды вось адзін раз панна Стася прыбегла падзяліцца радаснай навіной, нейкі хлапец за яе пасватаўся... Прыбегла запрасіць на сваі заручыны. Была шчасьліва, вясёлая, прыгажэйшая, чымсь заўсёды.

Пятрук, каторы дагэтуль забаўляўся з Трэзорам, вырываючы яму з бакоў поўнымі жменямі рыжыя кудлы, прыціх і глядзючы шырока расплюшчэнымі вачыма ў твар панны Стасі, пачаў слухаць...

Прагавіта лавіў словы... Стараўся зразумець гутарку і ня мог нічога сьцяміць. Якжа-ж так? Дык нешта не так? Яна-ж казала... абецала... Не, тут нешта не так!..

Яго малюсенькі мозаг 6-ці гадовага дзіцяці, ня прывыкшы яшчэ да маны і ашуканства, ня мог згадзіцца с тым, што ўсё чутае цяпер трэба прынімаць даслоўна, так, як яно зычыць...

Ён хацеў у тым, што чуў, бачыць якійсь іншы, незразумелы для яго сэнс...

— Бо-ж немагчыма, каб гэта ўсё было праўда... Яна-ж абецалася чакаць пакуль ён вырасьце...

(*Канец будзе*).

# Беларуская Кроніка.

**АД КАНЦЭЛЯРЫІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.**

Дзеле таго, што ў хуткім часе мае адчыніцца сэсія Рады, Канцэлярыя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі просіць усіх радных БЯЗАДКЛАДНА зарэгістравацца ў Канцэлярыі (Беларускі Дом), каб можна было разаслаць радным павесткі.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску.**

На чарговым сходзе 28 кастрычніка былі разгледжаны гэтакія справы:

1) Аб выбарах двох прадстаўнікоў у Галоўны выбарны Камітэт па выбарам у Мястовую Раду; замест М. Міцкевіча і К. Пуроўскага пастанавілі прасіць А. Прушынскага і А. Смоліча быць памянёнымі прадстаўнікамі.

2) Замест цяжка хворай п. Гіркант выбралі пана Козіча быць часовым прадстаўніком у Камісыі грамадзянскай апекі.

3) Прадстаўнікамі ад Школьнае Рады Меншчыны пры Настаўніцкім Інстытуце зацьверджаны Я. Лёсік і Я. Фарботка.

4) Разглядалі нечарговую заяву старшыні Школьнай Рады Меншчыны Р. Міхайлоўскага аб цяжкім матэрыяльным становішчы вышэйшых і ніжэйшых беларускіх школ у Менску. Пастанавілі зрабіць грашовую дапамогу.

5) Даклады сяброў Камітэту і настаўнікаў з Віленшчыны аб школьных справах у Віленшчыне і Горадзеншчыне. Пастаноўлено ўлажыць мэморандум аб школьнай справе на Беларусі. Для лепшай інформацыі грамадзянства з станам школьнай справы на Беларусі пастанавілі прасіць газэту «Беларусь» адчыніць спэцыяльны аддзел аб школах на Беларусі.

6) Пастанавілі дапамагчы хору Цераўскага, каторы пераживае матэрыяльную недастачу. Далі яму аднаразовую дапамогу 5.000 руб.

7) Разглядалася нечарговая заява п. Смоліча аб сьвяткаваньні ў належны дзень 2-х гадовай гадаўшчыны Вялікай Беларускай Рады. Выбралі камісыю, каторай і даручано заняцца гэтай справай.

8) Заслухалі даклады: п. С. Трахімава аб паездцы па Навагрудзкім павеце і п. Крэпскага аб яго паездцы па Слуцкім павеце і інш.

**Беларускі Пэдагогічны Інстытут у Менску.**

Беларускі Пэдагогічны Інстытут у Менску стаў установай чыста беларускай. Паміж Пэдагогічным Інстытутам і Беларускім Нацыянальным Камітэтам у Менску зроблена ўмова, згодна з каторай Пэдагогічны Інстытут астаецца ўвесь час пад апекай і кіраваньнем Беларускага Нац. Камітэту альбо другое вышэйшае беларускае нацыянальнае ўстановы

Дырэктар Інстытуту зацьвярджаецца Беларускім Нацыянальным Камітэтам. Прафэсары або адразу чытаюць лекцыі пабеларуску, або абавязуюцца з новага году перайсьці да вучэньня ў беларускай мове, іначай яны лічацца няштатнымі.

У Школьную Раду Інстытуту ўваходзяць два прадстаўнікі ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Цяпер дырэктарам Інстытуту зацьвярджаны прафэсар Усевалад Ігнатоўскі, яго памочнікам—Валадзімер Вішнеўскі. Апрача гэтага да складу вучыцялёў Інстытуту належаць гэткія ведамыя беларускія навуковыя сілы: проф. д-р хіміі Вацлаў Іваноўскі, інжынер-тэхнолёг і інж.-элёктрык Трэпка, проф. Маслоўскі, прыват-доцэнт Пецярбурскага унівэрсытэту Б. Тарашкевіч. Маніцца яшчэ з Кіева прыехаць лектар Кіяўскага ўнівэрсытэту Леушчэнка.



Рэдакцыя і Адміністрацыя: Сьв. Міхальскі завул. 2, кв. 16. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец Францішк Алехновіч.

Пазволено Ваеннаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва»